**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

21 (581) 26 траўня 2011 года

Кошт свабодны.






Фота Кастуся Шыталя.

Глыбокае. Рэаліі нашых дзён.

Верхнядзвінскі раён

# На свой і замежныя рынкі

■ Станіслаў Раманчук.

**Яшчэ за савецкім часам прадукцыя вядучага ў прамысловасці Верхнядзвінскага раёна завода "Заавет інструмент" добра разыходзілася па неабсяжных прасторах СССР.**

У адрозненне ад іншых вытворцаў з глыбінкі, у рабочым пасёлку Бігосава здолелі захаваць аб"ект. Праўда, змянілі не толькі назву завода на ААТ "Інвет", але і профіль выпускаемай прадукцыі з пластмасы. Завадчане захавалі свой важкі інжынерны патэнцыял і вырабляюць лепшыя тавары года на рынках Беларусі і Расіі па праграме імпартазамяшчэння. У ліку апошніх сталі вырабляць дарожныя раздзяляльныя знакі, сучасныя кантэйнеры для гароднінасховішчаў, прыстасаванні для выдалення смецця з будаўнічых аб'ектаў. Бігосаўцы цяпер выпускаюць унікальныя ў краіне вырабы на італьянскай лініі фармавання аб'ёмных форм. Магчымасці сучаснай тэхналогіі сапраўды агромістыя. Гэта тэхніка дазваляе атрымоўваць з пластмасы вырабы любога колеру і пры гэтым з самых звыштрывалых палімераў. На прадпрыемстве пачалі выконваць заказы па вырабе пантонаў на вадзе, з якіх можна сабраць плывучае кафэ альбо арыгінальную танцавальную пляцоўку.

Цяпер ужо па ўсёй Беларусі і суседняй Расіі пачалі разыходзіцца розныя прыгожыя канструкцыі для ландшафтнага азелянення з падвоенай сценкай і дрэнажнымі устройваннямі. На зарубежныя рынкі завод выйшаў таксама з індывідуальнымі домікамі-боксамі для ўтрымання новanароджаных цялят. На чарзе выпуск дрэнажных труб і крышак для сучаснай упакоўкі тэтрапак.

Пастаўскі раён

# "Інтэрв'ю" для ... залы суда

■ Кастусь Александровіч

**У наш час давяраць можна хіба што добра знаёмым людзям, паколькі сярод знешне нармальных грамадзян трапляюцца зламыснікі і нелюдзі.**

Гэтым жыццёвым правілам летась не скарысталася пажылая пенсіянерка з вёскі Мястэчка Пастаўскага раёна, якую абрабавалі восенню заезджыя злачынцы з Брэсцкай вобласці. Там, у горадзе Баранавічы, жыў цыган, які ведаў раней гэту мясцовую жанчыну і тое, што яна атрымоўвала грашовую кампенсацыю з Германіі як былы вязень канцлагера ў гады вайны. У кампаніі разам з жонкай і знаёмым грузінам вырашылі паправіць свой матэрыяльны дабрабыт і прыехалі на аўтамабілі на Пастаўшчыну. Па распрацаваным плане жанчына купіла нават букет кветак, прадставілася журналісткай, каб быццам распытаць бабульку пра гады, праведзеныя ў фашысцкай няволі. Старая жыла адна і была рада госці, упусціла яе ў хату. Услед за "рэпарцёрам" у пакой неўзабаве ўварваліся двое мужчын у масках, прывязалі жанчыну да крэсла, заклеілі рот скотчам і забралі 1000 еўра і 1 млн. беларускіх рублёў, адкладзеных на чорны дзень. Калі няпрошаных гасцей і след прапаў, бабуля развязала вяроўку і паведаміла аб здарэнні ў міліцыю. Гэта трыа налётчыкаў было затрымана і па прыгаворы суда яны атрымалі ўсяго па 4 гады пакарання, бо не нанеслі жанчыне ніякіх пашкоджанняў. Праўда, маці дваіх дзяцей будзе знаходзіцца на "хіміі", а яе муж - у калоніі ўзмоцненага рэжыму. Напарнік з Каўказа, адзіны раней не судзімы, адправіўся ў калонію агульнага рэжыму. Ды і нарабаваных грошы пацярпелай пакуль яны не вярнулі, бо паспелі хутка патраціць.

Докшыцкі раён

# Усім хопіць бульбачкі

■ Чэслаў Якубовіч

**Парадокс, але цяпер да ліку самых прыбытковых культур у сельскай гаспадарцы зноў стала адносіцца бульба – спрадвечна любімы беларусамі прадукт харчавання.**

Аднак яе вырошчваннем апошнім часам перасталі займацца многія гаспадаркі, каб не мець потым дадатковых клопатаў з рэалізацыяй клубняў і іх захоўваннем. А вось у буйным сельгаспрадпрыемстве "АграБераснёўка", што ў Докшыцкім раёне, не паддаліся агульнай практыцы і не кінулі вырошчваць "другі хлеб". Яшчэ летась участкі пад бульбай занялі 155 гектараў і прынеслі нядрэнны прыбытак. У гэтым жа годзе пасевы пад гэтай культурай павялічылі да 240 гектараў, падабралі належную зямлю. У гаспадарцы, у адрозненне ад іншых, ёсць нават дзве прадукцыйныя бульбасаджалкі. З надыходам сапраўднага цяпла пасадку клубняў пачалі яшчэ ў канцы красавіка і паспелі за 4 дні пад будучы ўраджай апрацаваць амаль 80 га. Скарысталіся вяскоўцы і падтрымкай абласнога бюджэту, які выдзеліў сродкі для набыцця пасяўнога матэрыялу, бо ўласных клубняў не хапіла на ўсю плошчу надзелаў. Хлебаробы спадзяюцца, што восенню атрымаюць добры ўраджай, паколькі насенная бульба з Галандыі, аднаго з сусветных лідараў па яе вырошчванні. Тэхнікі ў калгасе цяпер хапае, як і ўгнаенняў, можна забяспечыць неабходны догляд пасеваў бульбы. А ўжо ў сярэдзіне лета будзе бачна, ці спраўдзяцца спадзяванні на высокі ўраджай клубняў, на якія быў летась вялізны попыт. Дарэчы, на Віцебшчыне сёлета падвоілі бульбяное поле, якое заняло амаль 10 тысяч гектараў.




# Лічба нумара

**4930** – такі афіцыйны курс даляра ўсталяваны з 24 траўня. Такім самым (плюс-мінус 2%) ён будзе і ў абменніках.

Курс еўра тады складзе 6914,82 рубля; расійскі рубель - 173,95 рубля.Нацбанк размясціў гэтую інфармацыю на сваім сайце.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч перад выхаднымі заявіў, што ўрад і Нацбанк Беларусі ў панядзелак-аўторак прымуць рашэнні для стабілізацыі сітуацыі на валютным рынку.

Галоўнае пытанне зараз -- ці здолее Нацбанк утрымаць курс на гэтым узроўні. У гэты момант ужо ўсім стала відавочна, што валютны крызіс у краіне набірае абароты, паколькі курс айчыннай валюты падае пры захаванні множнасці такіх паказчыкаў, банкаўскія стаўкі па працэнтах пайшлі ўгору, а жаданай "зялёнай" замежнай валюты ў абменніках паранейшаму не купіць. Толькі 11 мая кіраўніцтва Нацбанка РБ, аслабленае хваробай сэрца яго кіраўніка П. Пракаповіча, зняло абмежаванні для банкаў па ўстанаўленні імі курсаў замежнай валюты.

Тады ж рэкамендуемы курс да канца тыдня быў вызначаны на ўзроўні не вышэй за 4 тыс. рублёў/USD, што, па сутнасці прывяло да чарговай дэвальвацыі беларускай валюты на 30 %. Але паколькі галоўны банк краіны не прадае іншым банкаўскім установам долары і еўра, яны і не маглі з'явіцца ў абменных пунктах валют з-за страхаў чакання людзьмі новай дэвальвацыі. І такія людзі мелі рацыю, бо той, хто рашыўся здаць валюту, праз некалькі дзён прайграў. На айчынных рынках яшчэ пры курсе 4000 руб./USD цэннікі на тавары і прадукты разлічваліся на ўзроўні 4500-4800 рублёў, у чым пераканаўся асабіста адзін з намеснікаў міністра эканомікі Андрэй Тур, які прайшоўся па сталічным Камароўскім рынку.

Далейшая лібералізацыя валютнага рынку не вырашыла існуючых праблем, бо афіцыйны курс ужо ніхто ўсур'ёз не ўспрымае. І праз 5 дзён адбылося чарговае аслабленне беларускай валюты. Перад гэтым яшчэ ў красавіку многія суайчыннікі, каб застрахавацца, знялі са сваіх укладаў 459 млн. долараў, што адразу прывяло да змяншэння валютных дэпазітаў на 9,9 %. Для параўнання, у сакавіку сітуацыя была спакайнейшая: людзі забралі з банкаў толькі 40,4 млн. USD. Хоць зараз айчынныя банкі могуць самастойна устанаўліваць валютны курс для продажы і еўра, у асобных абменніках ён "падскочыў" да 6470 рублёў, да стабілізацыі абстаноўкі далёка. Тым часам нашы прадпрыемствы, імпарцёры расійскай прадукцыі, з-за валютнага крызісу нават у рамках Мытнага саюза нясуць велізарныя страты.

У выніку многія такія фірмы замарозілі сваю дзейнасць, адправілі людзей у водпуск, запахла ростам беспрацоўя. Адразу гэта стала бачна па істотна апусцелых паліцах магазінаў, дзе толькі цэннікі на тавары зашкальваюць. Чамусьці ніяк не бачна, як у гэтай сітуацыі дзейнічае беларускі ўрад, які чынам ён спрабуе кіраваць станам эканомікі ў складаны для яе перыяд. Праўда, пры гэтым існуе парадокс, што народу стала дрэнна жыць, а вось значнай групе буйных айчынных прадпрыемстваў ( найперш МТЗ, МАЗ, БелАЗ, Жлобінскі металургічны завод) і нават цэлым галінам ад дэвальвацыі беларускага рубля толькі карысць.

На такіх беларускіх брэндах у 1-м квартале экспартныя пастаўкі выраслі ў 1,4 разы са станоўчым знешнегандлёвым сальда 715,4 млн. USD. Аднак у іншых галінах нашай эканомікі справы не змяніліся ў лепшы бок, бо замежны імпарт за гэты перыяд вырас яшчэ ў 1,7 разоў, а з ім і адмоўнае сальда ў студзені-сакавіку сёлета склала мінус 3,1 млрд. долараў. Цяпер цяжка сказаць, калі закончыцца гэты валютны хаос і на якім канчатковым узроўні зафіксуецца гэты курс. Справа ў тым, што базавага тавару – наяўнай валюты – на гэтым сегменце рынку ў маі не было, а дэвальвацыя беларускага рубля стала відавочнай.

Зараз толькі застаецца прыгадаць бласлаўлёны 2007 год, калі курс долара складаў каля 2100 рублёў/USD. Неўзабаве пасля гэтага мы перажылі першую 20-працэнтную дэвальвацыю нацвалюты. Нашы людзі да ўсяго прывычныя, зараз стала няпроста жыць і трэба рыхтавацца, што 2012 і 2013 гады будуць таксама вельмі цяжкія.

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 26.05.11 | | | | пятн. 27.05.11 | | | | сб. 28.05.11 | | | | нядз. 29.05.11 | | | | пн.30.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | +6 | +12 | +15 | +14 | +8 | +15 | +20 | +19 | +13 | +20 | +15 | +15 | +7 | +13 | +16 | +15 | +10 | +14 | +19 |
| Ціск, мм | 751 | 750 | 750 | 750 | 750 | 748 | 746 | 744 | 742 | 740 | 744 | 746 | 749 | 749 | 749 | 749 | 751 | 753 | 753 |
| Вільготнасць, % | 76 | 67 | 49 | 58 | 80 | 60 | 47 | 59 | 82 | 67 | 79 | 65 | 82 | 61 | 48 | 56 | 81 | 56 | 50 |
| Вецер м/сек | З 4 | З 5 | З 5 | З 2 | Ю 3 | Ю 6 | Ю 7 | Ю 3 | Ю 4 | Ю-З 6 | З 2 | З 3 | З 2 | Ю-З 2 | З 4 | З 2 | З 3 | С 1 | З 3 |

## Дзень за днём

**Нацбанк Беларусі даручыў буйнейшаму айчыннаму банку "Беларусьбанк" прадаваць людзям наяўную замежную валюту на найбольш значныя "сацыяльныя мэты" па падставе іх заяў, які з улікам высокага росту росту інфляцыі зноў павысіў стаўку рэфінансавання да 14 % гадавых. У Беларусі лібералізавалі аплату працы наёмных работнікаў, а Белстат зафіксаваў у красавіку сур'ёзны рост цэн у параўнанні з мінулагодним узроўнем на 18,1 % (з пачатку года на 10,9 %). Лічбы лічбамі, але ў краіне практычна не засталося тавараў і прадуктаў, якія б рэзка не падаражэлі апошнім часам. На прайшоўшым "Еўрабачанні-2011" Беларусь зноў не трапіла ў фінал, заняўшы 14-е месца ў паўфінале.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Міністр фінансаў РФ А. Кудрын пацвердзіў, што Беларусь не атрымае ў 2011 годзе расійскі крэдыт, ён парэкамендаваў ёй хутчэй прыватызаваць прывабныя прадпрыемствы.

**Сірыя.** Супраць краіны Еўрасаюз увёў пакет санкцый за празмерна жорсткае падаўленне акцый пратэсту сірыйцаў, забойства больш за 600 чалавек, арышты 8 тысяч грамадзян.

**Лівія.** У сталіцу народнага паўстання Бенгазі прыляцеў глава МЗС Польшчы Р. Сідорскі, які паведаміў, што Еўрасаюз прызнае Нацыянальную раду паўстання законнай уладай.

**Балгарыя.** МЗС краіны адклікала на радзіму адразу13 паслоў з замежных дзяржаў (Англіі, Германіі, РФ, Італіі, Японіі), бо яны раней былі сакрэтнымі агентамі спецслужб .

**Расія.** Расійскае МЗС асудзіла выпадкі затрымання і дэпартацыі з Беларусі шэрагу сваіх грамадзян-праваабаронцаў і расцэньвае як недапушчэнне падобных інцыдэнтаў.

**Венесуэла.** Прэзідэнт У. Чавес аб'явіў праграму "Мой утульны дом". Будзе прададзена на 50 % танней 3 млн. кітайскіх тэлевізараў, халадзільнікаў, газавых пліт і кандыцыянераў.

**Літва.** З 29 мая цягніком з Вільнюса да сталіцы Беларусі можна даехаць за 3 гадзіны, час адпраўлення ў 07. 05 і 19. 05, праходжанне пагранічнага і мытнага кантролю 34 хвіліны.

**Польшча.** Многія мільёны USD страт прынёс гіганцкі пажар паблізу Варшавы на складзе плошчай 10 тыс. кв. метраў, чалавечых ахвяр няма.

**Латвія.** Латвійская чыгунка на парытэтнай аснове з калегамі з Беларусі таксама з 29 мая аднавіла рэгулярны рух пасажырскіх цягнікоў Рыга-Мінск, зімой – па пятніцах і нядзелях.

**Аўстралія.** Праваабарончая арганізацыя Sidney Peace Foundation уручыла заснавальніку сайта WikiLeaks Д. Асанжу залаты медаль за мужнасць па абароне правоў людзей.

**КНДР.** Лідар напаўгалоднай краіны, багатай воднымі рэсурсамі, Кім Чэн Ір заклікаў нацыю зрабіць рыбагадоўлю масавай.

**ЗША.** Адразу ў 10 штатах краіны прыйшлося эвакуіраваць людзей пасля найбуйнейшага за 80 гадоў разводдзя ракі Місісіпі, выкліканага моцнымі ліўнямі.

**Францыя.** Прэзідэнт Еўрапарламента Ежы Бузек і шэраг вядучых дэпутатаў заклікалі Сусветную федэрацыю хакея не праводзіць у Мінску чэмпіянат свету ў 2014 годзе.

**Швейцарыя.** На адным з горных курортаў ва ўзросце 78 гадоў застрэліўся вядомы нямецкі фатограф і мільянер Гюнтэр Сакс, былы муж Б. Бардо, ён не захацеў пакут старасці.

**Італія.** Падчас 3-га этапа папулярнай гонкі Giro d'Italia трагічна загінуў бельгійскі веласіпедыст Воўтэр Вейлант, які на высокай хуткасці ўпаў на трасе за 20 км да фініша.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Шклоў.** Праз 1-2 бліжэйшыя месяцы, як паабяцаў зноў Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання свайго роднага саўгаса, Беларусь урэгулюе сітуацыю на валютным рынку.

**Мінск.** У Нацбанка РБ і ўрада, як заявіў першы беларускі галоўны банкір С. Багданкевіч, няма пакуль праграмы аздараўлення айчыннай эканомікі і выхаду з крызісу.

**Мазыр.** Новую хвалю чутак аб продажы мясцовага НПЗ справацыраваў віцэ-прэзідэнт англа-расійскай кампаніі ТНК-BP Д. Бодрану, ім выгадна мець рынак збыту на Украіну.

**Ганцавічы.** Журналістка райгазеты "Савецкае Палессе" Святлана Курылік падала у суд на кіраўніка раёна за распаўсюджанне аб ёй ганебных, зняважлівых звестак.

**Мінск.** Глава дыпмісіі Венгрыі, якая старшынстве ў ЕС, Ференц Контра паведаміў, што Еўропа пачне дыялог з Беларуссю толькі пры ўмове вызвалення ўсіх палітзняволеных.

**Крычаў.** Ноччу адбылося сутыкненне расфарміраванага грузавога поезда з яшчэ адным грузавым цягніком, ахвяр не было, але сышлі з рэек 4 вагоны, пашкоджана 100 м чыгункі.

**Мінск.** Беларусы павінны заваяваць у Лондане на Алімпіядзе-2012 25 медалёў, з якіх 5 – залатыя. Гэта пацвердзіў у інтэрв'ю 1 каналу БТ міністр спорту і турызму РБ Алег Качан.

**Ліда.** Пасля пачатай рэканструкцыі ААТ "Лідскае піва" адгрузіла сёлета на экспарт 201,3 тыс. дал піва, што ў 2,2 разы болей, чым летась, усе піўзаводы РБ разам – 1,8 млн. дал.

**Магілёў.** У абласным цэнтры запрацавала новая фірма "жаночага" таксі "Катрын" з 8 машын, дзе кіроўцы толькі жанчыны і возяць дам усіх узростаў і іх дзяцей.

**Ждановічы.** Да 1 жніўня сюды сагадалі перасяліцца ўсім прадпрымальнікам з самага таннага Чэрвеньскага рынку сталіцы, які закрываецца на рэканструкцыю да 2015 года.

**Мінск.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 19-гадовага п'янага акрабата, які скакаў вечарам па дахах машын і пашкодзіў 4 іншамаркі. Яму пагражае да 3 гадоў турмы.

**Барысаў.** Генпракуратура Беларусі і дзяржпажнагляд зафіксавалі надзвычайную пажаранебяспечную сітуацыю на ААТ "Барысаўдрэў".

**Мінск.** Гендырэктар сталічнага "Кінавідэапракату" Васіль Коктыш прызнаў, што ёсць праблемы з разлікамі за асобныя кінапрэм'еры, у маі выйдзе толькі 6 такіх фільмаў.

**Гомель.** Міліцыя затрымала 27-гадовага рабочага-мантажніка, які пасля сваркі забіў нажом у кабінеце 41-гадовага дырэктара свайго прадпрыемства, бо месяц не меў працы .

**Мінск.** Алімпійскі чэмпіён па фрыстайлу Аляксей Грышын нарэшце ажаніўся, яго суджанай стала былая гімнастка Святлана Рудалава, каманды прызёр чэмпіянату свету.

## Урад Беларусі прыняў рашэнне аб зніжэнні дапушчальнага ўзроўню утрымання алкаголю ў крыві вадзіцеля



■ Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН

**Урад Беларусі прыняў рашэнне аб зніжэнні дапушчальнага ўзроўню ўтрымання алкаголю ў крыві вадзіцеля з 0,5 да 0,3 праміле.**

**Пастанова Савета міністраў ўжо падпісана, паведаміла БелаПАН старшы інспектар па асобых даручэннях упраўлення ДАІ МУС Ганна Банадык. Тэрміны ўваходжання дакумента ў сілу пакуль не называюцца.**

Колькасць вадзіцеляў, якія селі сёлета за руль у нецвярозым стане і былі затрыманы інспектарамі ДАІ, набліжаецца да 18 тысяч. За мінулы год было выяўлена прыкладна 5 тысяч вадзіцеляў, якія селі за руль у нецвярозым стане паўторна на працягу года. Па віне п'яных вадзіцеляў на дарогах загінулі 205 чалавек.

20-22 мая для эфектыўнага выяўлення вадзіцеляў, якія кіруюць транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення, па ўсёй краіне супрацоўнікі ДАІ актыўна працавалі з выкарыстаннем тактыкі "звужанай паласы".

У мэтах стабілізацыі становішча на дарогах, арганізацыі бяспекі дарожнага руху і аказання дапамогі ўдзельнікам дарожнага руху ў перадвыхадныя і выхадныя дні Дзяржаўтаінспекцыя арганізуе ўзмоцнены варыянт нясення службы. Асаблівую ўвагу супрацоўнікі дарожна-патрульнай службы нададуць выкананню хуткасных рэжымаў, правілаў абгону і манеўравання, выкарыстанню рамянёў бяспекі, кантролю цвярозасці. Аўтамабільныя патрулі ДАІ будуць узмоцнены матацыклістамі са спецпадраздзялення ДПС "Страла". На ўсёй тэрыторыі Беларусі інспектары ДПС будуць працаваць паводле высокаэфектыўнай методыкі з выкарыстаннем мабільнага комплексу фотавідэафіксацыі "Арэна" і каналаў электроннай сувязі GPRS, якія дазваляюць на любыя адлегласці перадаваць фотаматэрыялы з зафіксаванымі парушэннямі для далейшага адэкватнага рэагавання на іх.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе завяршаюць будаўніцтва цэха перапрацоўкі сыраваткі, ужо летам вытворчасць тут стане поўнасцю безадходнай.

**Віцебск.** На тэрыторыі СЭЗ "Віцебск" сабралі першыя некалькі спецаўтамабіляў "хуткай дапамогі" і спецлабараторыю для пагранічных войскаў Беларусі на базе іншамарак.

**Орша.** З-за адсутнасці заказаў мясцовы авіярамонтны завод вымушаны перайсці сёлета на працу па скарочаным графіку толькі 3 дні на тыдзень, тут надзея на лагістычны цэнтр.

**Полацк.** Праверка дзяржкантролю выявіла ў адным з вясковых магазінаў прадукты, тэрмін годнасці якіх скончыўся 646 дзён назад, усяго забракавалі на суму 23 млн. рублёў.

**Віцебск.** У складанай эканамічнай сітуацыі апынуўся тэлезавод "Віцязь", шэраг цэхаў прастойваюць, упалі заробкі, а выпуск няпрофільнай прадукцыі не выратоўвае калектыў.

**Мёры.** Недабудаваны даўгабуд (амаль 20 гадоў), галоўны корпус новай райбальніцы стаў аварыйным і патрабуе значнага рамонту і замены шэрагу небяспечных канструкцый.

**Глыбокае.** Супрацоўнікі райаддзела МНС выратавалі ад гібелі з палаючага дома 72-гадовага дзеда-пенсіянера, ён атрымаў моцныя апёкі рук і ног 1-й і 2-й ступені.

**Паставы.** За некалькі дзён падчас правядзення на тэрыторыі раёна спецмерапрыемства "Арсенал" было выведзена з незаконнага абароту 9 адзінак незарэгістраванай зброі.

**Віцебск.** На тэрыторыі раёна паўстаў помнік мясцовай жыхарцы, урачу Ганне Мамонавай, якую ў гады вайны расстралялі бесчалавечныя гітлераўцы разам з трыма малалетнімі дзецьмі.

**Браслаў.** Пераможцам творчага конкурсу СМІ вобласці за 2010 год стаў калектыў райгазеты "Браслаўская звязда", ён атрымаў дыплом, прэмію і статуэтку Ф. Скарыны.

**Докшыцы.** На працягу месяца навучэнцы ўсіх 15 СШ раёна ўдзельнічалі ў маладзёжным прававым марафоне "Падлетак і мы", мэтай якога была прафілактыка злачынстваў сярод моладзі.

**Глыбокае.** Жыхарка райцэнтра Альбіна Сяліцкая пасля паспяховага выступлення на "Бітве экстрасенсаў" стала працаваць ў Маскве ў Цэнтры дапамогі ў экстрымсітуацыях.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы саўгас "Асвейскі" пачаў забяспечваць пагранзаставу "Савейкі" фуражом для коней, раней ён прадставіў ёй 4 малалых кабыл ва ўзросце 4-7 гадоў.

**Віцебск.** Фірма "Марка" ўстанавіла ў горадзе выробленую за мяжой прыгожую бронзавую скульптуру святога Крыспіна, апекуна ўсіх абутнікоў і апрацоўшчыкаў скуры.

**Полацк.** Напярэдадні Міжнароднага дня музеяў мясцовы гісторыка-культурны запаведнік у 3-і раз правёў акцыю "Упішы сябе ў гісторыю горада" і яшчэ больш папоўніў фонды.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Сёньня Глыбокае забылася аб усіх яе заслугах, ніхто не прыходзіць на яе магілку, а тыя, хто прыйдзе, то й так ня ведае, хто там пахаваны.**

# Сястра Тадэя – Белы Анёл Глыбокага



■ **Аляксандр Івашчонак**, *бакалаўр гісторыі.*

*Захаваны правапіс аўтара.*

Мала хто памятае, але роўна 65 гадоў назад 25 чэрвеня 1946 года ў Глыбокім памерла сястра Тадэя Касьцюшка з Кангрэгацыі Сясьцёр Непакалянак, якія працавалі ў Глыбокім ад 1934 па 1952 г. Сястра Тадэя была незвычайнай постацьцю ў гісторыі горада, а калі гаварыць пра польскі перыяд ў гісторыі Глыбокага, то трэба падкрэсьліць, што менавіта сястра Тадэя была той, хто рабіў больш за ўсіх, каб нашае Глыбокае квітнела.

Сьвятую Альжбету Алапаеўскую (св. Елизавета Алапаевская) называюць Белым Анёлам Масквы, мне здаецца, што сястру Тадэю ў такім выпадку сьмела можам назваць Белым Анёлам Глыбокага – нашай Нябеснай Заступніцай.

Варта прыгадаць крыху гісторыі... Пачалося ўсё ў 1935 г., калі сястру Тадэю прыслалі ў Глыбокае, каб яна выконвала тут функцыю "пшэложонай" (настаяцельніцы) кляштара сясьцёр непакалянак, якія ад 21 жніўня 1934 г. працавалі ў нашым горадзе. Ужо на самым пачатку сястра Тадэя зрэфармавала Прыватныя Жаночыя Курсы Крою і Шыцьця ў Глыбокім (Prywatne Żeńskie Kursy Kroju i Szycia w Głębokiem), закладзеныя ў 1928 г. Каталіцкай Суполкай Поляк ў Глыбокім (Katolicki Związek Polek w Głębokiem – гэтая суполка Поляк перадала курсы шыцьця манахіням, таму ужо ў 1934 г. гэтыя курсы належалі да кляштара сясьцёр непакалянак).

Сястра Тадэя адразу зразумела, што гэтыя курсы ў Глыбокім маюць вялікую пэрспэктыву развіцьця, таму ўжо 20 мая напісала просьбу да Куратарыі Адукацыі Віленскага ваяводства, кабператварыць гэтыя курсы адразу ў кравецка-бялізьнярскі тэхнікум для дзяўчат. Куратарыя згадзілася, і 1 кастрычніка 1935 г. ў Глыбоцкім кравецка-бялізьнярскім тэхнікуме (Szkoła Zawodowa Krawiecko-Bieliźniarska w Głębokiem) распачаўся новы навучальны год (за польскім часам навучальны год распачынаўся ня 1 верасьня, але 1 кастрычніка, так, як па сённяшні дзень ў Польшчы). На пасаду дырэктара тэхнікума прызначылі сястру Тадэю, з заробкам у 1000 злотых за 10 месяцаў. Для дзяўчат, якія хацелі вучыцца ў тэхнікуме, прызначылі цану – 6 злотых за год, але дзякуючы стараньням сястры Тадэі за навуку плацілі толькі багатыя дзяўчаты, бяднейшыя плацілі палову альбо ўвогуле не плацілі. Такім чынам сястра Тадэя прыняла на 1935/1936 навучальны год 32 вучаніцы і 9 практыкантак (сярод іх было 14 праваслаўных дзяўчат! – амаль палова).

Дзень распачынаўся а 6.30, у 7.00 была ранішняя малітва, 7.30 сьнаданьне. Заняткі былі ад 8.00 да 12.00, ад 12.00 да 14.00 абед, а ад 14.00 да 18.00 – зноў заняткі. А 18.00 гадзіне дзяўчаты ішлі разам з манахінямі да касьцёла на малітвы, а пасьля – вячэра а 19.00 гадзіне.

Сястры Тадэі пашанцавала атрымаць дазвол на зрэфармаваньне аднагадовага тэхнікума на трохгадовы з бурсай (інтэрнатам) для 18 дзяўчат з тэхнікума, а таксама для тых, якія вучыліся ў Глыбоцкай гімназіі. Было гэта вялікім дасягненьнем ня толькі для самой сястры Тадэі як дырэктара тэхнікума, але перадусім і для самога Глыбокага й яго разьвіцьця. Найлепш сьведчыць пра гэта артыкул у мясцовай газэце «Глыбоцкае Рэха» («Echo Głębockie» – можна сказаць, такое «Вольнае Глыбокае» перад вайной), што 6 верасьня 1936 г. у Глыбокім адкрыты трохгадовы тэхнікум. Многія гісторыкі па сённяшні дзень дзівяцца, як гэта было магчыма, каб «тры старыя манахіні [сястра Тадэя Касьцюшка, сятра Юзэфіна дый сястра Анеля] змаглі адкрыць тэхнікум, пабудаваць для яго будынак, а пры гэтым зусім ня маючы ані граша за душой». (гл.дзі Kamil Krzemiński, „Szkoły ponadpodstawowe Naddźwinia", MADO, s. 193-204). Варта прыгадаць, што ў тыя часы кляштары не атрымлівалі грошай ані ад дзяржавы ані ад біскупскай курыі, таму, каб пражыць, манахі дый манахіні працавалі, і ў Глыбокім непакалянкі, каб пражыць, заклалі тэхнікум, дзе й працавалі. Пры тэхнікуме сястра Тадэя пабудавала інтэрнат, за які трэба было плаціць 30 злотых ад дзяўчыны, аднак сястра Тадэя прымала вельмі шмат дзяўчатаў з бедных сямей, якія не маглі плаціць, таму сястра Тадэя плаціла за іх сама, а сёстрам казала: «Чым больш даю, тым яшчэ больш аддае мне Езус». На 30 студзеня 1937 г. у тэхнікуме было 75 дзяўчат, а ў верасьні 1937 г. больш за 100.

Тэхнікум Сясцёр Непакалянак пад кіраўніцтвам сястры Тадэі атрымліваў заўсёды пахвалы ад Дома Рамёстваў у Вільні (Izba Rzemieślnicza w Wilnie) і нават сам прэм'ерміністр II Рэчы Паспалітай Фэліцыян Славой Складкоўскі (Felicjan Sławoj Składkowski), які сам прыехаў у Глыбокае, каб паглядзець Тэхнікум Сясьцёр Непакалянак. Сястра Тадэя атрымала таксама датацыю ад дзяржавы на свой тэхнікум з Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнай Адукацыі (Ministerstwo Wyznań Religijnych i Edukacji Publicznej) – было гэта вельмі рэдкай падзеяй, бо ў трыццатых гадах урад ніколі не даваў датацый прыватным навучальным установам, а тэхнікум у Глыбокім быў прыватнай уласнасьцю Сясцёр Непакалянак.

Сястра Тадэя пасьля атрыманьня датацыі вырашыла за гэтыя грошы пабудаваць новы будынак для тэхнікума, каб ён ужо не быў драўляны, але цагляны. Дня 31 жніўня сам арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі асьвяціў фундамент новага тэхнікума, які закончылі будаваць ў чэрвені 1939 г.

Сястра Тадэя займалася таксама на Глыбоччыне місыйнай працай. Захаваліся яе пісьмы да Маткі Гэнэральнай, якія варта прыгадаць. Напрыклад, сястра Тадэя піша, што людзі ў Глыбокім вельмі пабожныя і просяць яе, каб яна іх вучыла рэлігіі, нават старыя, а перадусім праваслаўныя. Піша далей, што старэйшыя людзі распавядаюць ёй, што іх бацькі ўсе былі каталікамі, але прыйшоў указ цара і яны перайшлі на праваслаўе. Сястра Тадэя запыталася іх, чаму яны зараз не пераходзяць на веру сваіх бацькоў – на каталіцтва – а яны ёй ў адказ: «Тады быў указ цара, дык няхай і цяпер дадуць указ, дык мы і перайдзём». Далей распавядае пра праваслаўнага дзяка ў Глыбокім, які часта прыходзіў да сясьцёр непакалянак у госьці. Дзяк гэты нарадзіўся як уніята, але пасьля ўсю ягоную вёску, дзе ён жыў, «перапісалі на праваслаўную», дык і ён стаўся праваслаўным. У царкве маліўся ён толькі ў нядзелю, таму прасіў сястру Тадэю, каб яму дазволіла штодзень прыходзіць на малітвы ў кляштар да сясьцёр, бо "навошта ён будзе дома сядзець, калі можа Богу маліцца". Сястра Тадэя, канешне, дазволіла яму прыходзіць да сясьцёр на малітвы. Гэта быў сапраўдны экумэнізм ў Глыбокім – каталіцкія манахіні маліліся разам з праваслаўным дзякам. Аднак трэба памятаць, што Праваслаўная Царква на тэрыторыі II Рэчы Паспалітай была аўтакефальная з цэнтрам ў Варшаве, а атрымала аўтакефалію ад канстантынопальскага патрыярха дый ніякай сувязі з рускім праваслаўем і Маскоўскім Патрыярхатам ня мела, Глыбоцкая праваслаўная царква ў 1921 – 1939 гг. належала да Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, таму і не была агрэсіўна настаўлена супраць каталіцтва.

Сястра Тадэя ў сваіх пісьмах распавядае пра тое, як на яе заняткі рэлігіі прыходзяць таксама й праваслаўныя дзеці, было шмат выпадкаў, калі гэтыя праваслаўныя дзеці перапісваліся на каталіцтва, каб прыняць Першую Камунію, але ня толькі дзеці, але таксама й дарослыя, а нейкая Марыля перайшла на каталіцтва з перакананьня перад самым вясельлем. Вось такія ўспаміны аставіла сястра Тадэя пра Глыбокае.

Вяртаючыся да гісторыі, трэба сказаць, што ў Глыбокім працавала каля сямі сясьцёр непакалянак. Сястра Тадэя мела спэцыяльную місію, прызначаную для яе ксяндзом Зянкевічам – яна павінна была займацца загубленымі душамі. Сястра Тадэя кіравалася словамі арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, які заўседы напамінаў, каб сястра ані слова не казала аб пераходзе на каталіцтва, каб яна "вучыла католікаў быць добрымі католікамі, а праваслаўных – добрымі праваслаўнымі", і нават каб не ўспамінала аб пераходзе на каталіцтва, каб каталікамі яны станавіліся з перакананьня. Каб "палякаў вучыла быць добрымі палякамі, а беларусаў добрымі беларусамі», таму спэцыяльна прывёз для сясьцёр малітоўнікі, напісаныя беларускай лацінкай, каб яны давалі гэтыя малітоўнікі для беларусаў. Варта прыгадаць яе пасьвячэньне для людзей. Кожны месяц хадзіла яна па Глыбоччыне, несучы словы спачуваньня, дапамагала, як магла, бедным, пехатой хадзіла ў Галубічы, Ластавічы, Дзеркаўшчыну каб распавядаць людзям пра Бога.

У пісьме да Маткі Гэнэральнай сястра Тадэя пісала: "З Глыбокага, Каханая Матка, можаце быць задаволенай, так сказаў мне кс. Зянкевіч. Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі назваў сясцёр у Глыбокім сваёй Белай Гвардыяй, а Глыбоцкую парафію – найлепшай на Крэсах Усходніх", а ўсё гэта дзякуючы працы сястры Тадэі, якая нават атрымала Сярэбраны Крыж Заслугі.

Вельмі цяжка апісаць велізарныя заслугі сястры Тадэі для Глыбокага, таму хацелася б завяршыць гэты артыкул цытатай кс. Антонія Зянкевіча пра сястру Тадэю – "Да канца, нават у апошніх тыднях жыцьця, калі была ўжо прыкутая да ложка, не расставалася зь дзецьмі, вучыла іх рэлігіі, пісаньню, чытаньню... Многа малілася. Жыцьцё сваё ахвярвала за Касьцёл Сьвяты, за ксяндзоў, за мяне. Зь вялікай удзячнасцю ўспамінала Кангрэгацыю Сясьцёр Непакалянак і малілася за іх. Яе сьмерць выклікала паўсюдны жаль... Няма чаму дзівіцца. Калі сам арцыбіскуп назваў сясцёр непакалянак Белай Гвардыяй на межах архідыяцэзіі, а сястра Тадэя была на ганаровым месцы ў гэтай гвардыі, дый не сумняваюся, што гісторыя Касьцёла гэта запішыць!"

Памёрла сястра Тадэя 25 чэрвеня 1946 г. у Глыбокім, пахавалі яе на Копцеўцы. На пахаваньні прысутнічалі ня толькі католікі, але таксама шмат праваслаўных. Для Глыбокага гэта быў вельмі смутны дзень. На жаль, сёньня Глыбокае забылася аб усіх яе заслугах, ніхто не прыходзіць на яе магілку, а тыя, хто прыйдзе, то й нават ня ведае, хто там пахаваны.

***

Артыкул напісаны нападставе пісьмаў сястры Тадэі да Маткі Зяноны, апрацаваньню „Poszłam siać do Polski... I wzeszło" (Пайшла сеіць ў Польшч... І ўзышло) том II, ст. 368 – 381; Хроніка Глыбоцкага Кляштара Сясьцёр Непакалянак; успамінах Сясьцёр Непакалянак у „Nasze Życie" („Нашае Жыцьцё") нумар 10; апрацаваньню сястры Даніэлі "Дзейнасьць Сясьцёр Непакалянага Пачацьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі ў міжваенны перыяд" (s. Daniela, „Działalność Sióstr Niep. Pocz. NMP w okresie międzywojennym"), апрацаваньню K. Кшэміньскага "Панадпачатковыя школы Прыдзьвіньня" (K. Krzemiński, „Szkoły ponadpodstawowe Naddźwinia", 2004 г.). Здымкі паходзяць з Гэнэральнага Архіва Кангрэгацыі Сясьцёр Непакалянак у Шыманове (Archiwum Generalnie Zgromadzenia Sióstr Niepokalanek w Szymanowie).



Глыбокае, 1937 г. Выпускніцы тэхнікума.



**Будынак кравецка-бялізнярскага тэхнікума.**

*Зьнішчаны ў апошнюю вайну. Знаходзіўся на скрыжаваньні цяперашніх вуліц Камуністычнай і Піянерскай, побач з Гарадскім домам культуры.*

■ **Кастусь Александровіч**

Футбол

# НЕ ЗВАЖАЮЧЫ НА АЎТАРЫТЭТЫ

## “Тарпеда” (Жодзіна) – “ПМЦ-1” (Паставы) – 0:3




Гэту сустрэчу 10 тура нацыянальнага першынства сярод юнакоў у вышэйшай лізе (U-17) пастаўчане правялі з жодзінцамі па дамоўленасці датэрмінова, паколькі напрыканцы чэрвеня паедуць гуляць у Польшчу на прадстаўнічы міжнародны футбольны турнір. Давялося змагацца камандам на крыху няроўным полі мясцовай СДЮШАР, таму ў дэбюце матча гасцям прыйшлося спачатку прывыкаць да непрадказальных адскокаў мяча. Футбалісты ПМЦ спакойна сустрэлі стартавы націск тарпедаўцаў, а потым трывала ўзялі гульнявую ініцыятыву ў свае рукі і сталі перайграваць сваіх сапернікаў. Некалькі далёкіх удараў жодзінцаў у першыя 10 хвілін паядынку ўпэўнена парыраваў асноўны варатар пастаўчан Ілья Несцераў.

Сведчаннем відавочнай перавагі яго каманды над супернікам сталі неўзабаве два галы, праведзеныя пасля ўзорна разыграных камбінацый. У абодвух эпізодах партнёры вывелі паўабаронцаў Паўла Сысянкова і Ігара Пукава на ўдарныя пазіцыі адзін на адзін з галкіперам гаспадароў. Паўабаронцам пастаўчан заставалася толькі праявіць сваё майстэрства, што яны і зрабілі. Яшчэ да перапынку лік на табло стаў 0:2 на карысць гасцей, якія выйгравалі большасць адзінаборстваў, гулялі ў сваё задавальненне.

У другім тайме мяч большай часткай таксама гасціў на палове поля жодзінцаў. Да нейкага падабенства вострага моманту ля варот ПМЦ справа так ніводнага разу і не дайшла. А вось пастаўчане наадварот стварылі пяць разоў моманты, каб павялічыць яшчэ больш сваю перавагу. З іх быў выкарастаны ўдала толькі адзін, калі зноў вызначыўся Ігар Пукаў, які правёў ужо 5-ы па ліку мяч у вароты супернікаў у гэтым сезоне. Гэты таленавіты футбаліст па-ранейшаму ўзначальвае спіс лепшых бамбардзіраў турніра. Пераможны склад каманды ПМЦ гуляў у Жодзіна такі: Несцераў, Рымчонак, Альсевіч, Жарскі (к), Архіпаў, Малахаў (Санько), Давыдзенка, Пукаў (Фяркові), Сысянкоў, Сідарэнка (Валатоўскі), Максімчук (Латышаў).

Пасля чарговай, пятай па ліку запар перамогі пастаўчане з 15 ачкамі сенсацыйна ўзначалілі турнірную табліцу з выдатнай розніцай забітых і прапушчаных мячоў 11-0. Галоўнае, што ўжо зараз спецыялісты адзначаюць даволі прывабную гульню каманды, а хлопцы жадаюць удасканальвацца і зрабіць прафесійную кар’еру. Праўда, іх могуць дагнаць асноўныя канкурэнты, мінскія дынамаўцы (12 ачкоў і гульня ў запасе). Сярод іншых праследвальнікаў каманды ПМЦ ззаду ідуць вядомыя клубы “Віцебск” (10 ачкоў) і “Гомель”, “Нёман” (Гродна), “БАТЭ” (Барысаў) – усе па 9 ачкоў пасля 4-х праведзеных сустрэч. Наступны паядынак пастаўчане таксама згуляюць на выездзе ў Магілёве супраць рэзервістаў мясцовага “Дняпра”.

У адрозненне ад сваіх старэйшых сяброў, значна цяжэй прыйшлося ў Жодзіне футбалістам маладзейшай па ўзросце каманды “ПМЦ-2” (1996-1997 гадоў нараджэння). Яны па фізічных кандыцыях, вопыце і часе падрыхтоўкі саступаюць сваім супернікам. І хоць назіраюцца станоўчыя зрухі ў іх гульні, поўная самааддача на полі, у гэтым матчы юныя пастаўчане прайгралі больш вопытным тарпедаўцам з лікам 0:5.

На стадыёне ПМЦ у Паставах неўзабаве пройдзе галоўны матч гэтага сезону ў пятніцу 27 мая. На 17 гадзін прызначана сустрэча лідараў, старэйшых па ўзросце пастаўчан са славутым клубам“Дынама” (Мінск), 8 ігракоў якога ўваходзяць у склад юніёрскай зборнай Беларусі. Каманда ПМЦ працуе на перспектыву, і нядаўна ў яе на праглядзе былі трое таленавітых выхаванцаў са “Славіі” (Мазыр), якія летам могуць папоўніць калектыў.

Таксама напрыканцы мая стартуе ў чэмпіянаце Віцебскай вобласці дарослая футбольная каманда “ПМЦ-Паставы”, яна пазмагаецца ў сваёй заходняй зоне 2-й лігі яшчэ з пяццю супернікамі, у тым ліку і з Глыбокага. Дарэчы, у дарослую каманду ўваходзіць і 8 перспектыўных юнакоў на чале з іх трэнерам, іх гульня вельмі падабаецца гледачам. У бліжэйшы час у Паставах будзе падрыхтавана свая моцная футбольная каманда для ўдзелу ў чэмпіянаце Беларусі сярод дарослых.

■ **Яўген Самсонаў**

# Дзень фізкультурніка ў Глыбокім



**На новым стадыёне ў Глыбокім 21 траўня ўрачыста адзначалася свята – Дзень фізкультурніка.**

У прывітальным слове старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат павіншаваў прысутных са святам і ўручыў узнагароды лепшым спартсменам Глыбоцкага раёна 2010 года. Лепшы трэнер – Вольга Сяміндзяк, лепшы настаўнік фізкультуры – Анатоль Папок, лепшы суддзя – Анфей Ляшкевіч, Лепшы інструктар – Уладзімір Бохан, найлепшы ветэран спорту – Станіслаў Мялешка. Ганаровай граматай узнагароджаны Міхаіл Арэхаў.

Начальнік аддзела па фізічнай культуры, спорце і турызме Глыбоцкага райвыканкама Міхаіл Арэхаў падвёў вынікі круглагадовай працоўнай спартакіяды і ўручыў узнагароды. За 1-е месца – Глыбоцкаму дзяржпрафліцэю, 2-е – УП ЖКГ Глыбоцкага раёна і 3-е – Глыбоцкаму камбікармоваму заводу. Узнагароды таксама атрымалі Надзея Стрыёнак як лепшая спартсменка 2010 года і Алесь Жыгуноў – за прапаганду здаровага ладу жыцця ў сродках масавай інфармацыі.

Пасля невялічкага канцэрта пачаліся спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы сярод школьнікаў Глыбоцкага раёна.




Надзея Стрыёнак.

# КОНКУРС ІМЯ ЧЭСЛАВА МІЛАША

**Беларускі ПЭН-цэнтр абвяшчае творчы конкурс для маладых літаратараў, прымеркаваны да 100-годдзя з дня нараджэння Чэслава Мілаша.**

Да ўдзелу запрашаюцца творцы ад 15 да 26 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на традыцыйныя некалькідзённыя майстар-класы, дзе змогуць прадставіць і абмеркаваць свае творы з вядомымі пісьменнікамі, выкладчыкамі, навукоўцамі.

Да разгляду журы прымаюцца вершы, кароткая проза, эсэістыка, мастацкія пераклады.

Творы мусяць быць дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпэлі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за 20 чэрвеня 2010 г.



Падвядзенне вынікаў адбудзецца 30 чэрвеня, у дзень народзінаў выбітнага польскага паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі літаратуры Чэслава Мілаша.

Творы можна дасылаць на адрас: e-mail: penkonkurs@gmail.com (з пазнакай “Літаратурны конкурс”).

Паштовы адрас: 220050, а/с 218, Мінск, РГА “Беларускі ПЭН-цэнтр”.

Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон (017) 284-73-29.

*Беларускі ПЭН-цэнтр.*

■ **Кастусь Шыталь**

# У Шаркоўшчыне пачала працаваць выстава з мастацкага пленэра, прысвечанага Эміліі Плятэр

**У доме рамёстваў у Шаркоўшчыне пачала працаваць выстава твораў удзельнікаў 18-га Драздовіцкага пленэра, які прайшоў у жніўні мінулага года ў вёсцы Слабодка на Браслаўшчыне. Пленэр быў праведзены пры падтрымцы культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча, кіраўніцай якога з’яўляецца вядомая грамадская дзячка Ада Райчонак.**

Пленэр быў прысвечаны памяці Эміліі Плятэр – адважнай шляхцянкі, якая ў 1831 годзе ўзначаліла адзін з паўстанцкіх аддзелаў. Эміліі тады было 25 год. У баі з расійскімі войскамі яна была цяжка параненая і праз некалькі месяцаў памерла. Памяць пра адважную жанчыну шануюць у Польшчы, але мала хто ведае пра яе ў Беларусі.



Партрэт Эміліі Плятэр, створаны лепельскім мастаком Аляксандрам Саўчанкам, займае цэнтральнае месца на выставе. За спіной смелай шляхцянкі адлюстраваны паўстанцкі аддзел, сялянская сям’я і вёска – край, за свабоду якога змагалася Эмілія Плятэр.

На выставе шмат карцін з краявідамі нашага рэгіёна. Слабодка, Браслаў, Опса, Іказнь – маляўнічыя мясціны, у якіх неаднаразова ўспыхвалі вызваленчыя паўстанні. Шаркоўшчынскі мастак Віктар Крук прадставіў карціну “Легенды даўніны”, на якой адлюстраваны палац у Гарадцы, дзе ў 1831 годзе быў цэнтр паўстанцкага руху.

Мастак Зміцер Буглак адлюстраваў на сваёй карціне “Сівая даўніна роднага краю” вясковую хату з забітымі вокнамі – тыповую карціну для беларускай вёскі, якая калісьці нараджала паўстанцаў.

На выставе прадстаўленыя і творы ў сучасных стылях, намаляваныя мастакамі Віктарам Шымко і Алесем Фалеем.

Выстава ў Доме рамёстваў у Шаркоўшчыне будзе працаваць каля двух тыдняў. Жыхары мястэчка маюць магчымасць пабачыць творы з вялікай мастацкай вартасцю. Аднак вельмі нямногія карыстаюцца такой магчымасцю.

# Моладзь заклікае глыбачанаў дапамагчы дзецям са станульскага прытулка

■ Кастусь Шыталь

**Актывісты глыбоцкай моладзевай ініцыятывы “Live funny” рыхтуюцца да дабрачыннай акцыі ў дзіцячым прытулку ў вёсцы Станулі. У нядзелю, 22 траўня, пакуль большасць глыбачанаў размяталі тавары з крамаў і рынка, маладзёны прыйшлі на Цэнтральную плошчу, каб заклікаць глыбачанаў ахвяраваць грошы і рэчы для дзетак-сірот.**





Дабрачынная акцыя адбудзецца 29 траўня і прымеркаваная да Дня абароны дзяцей, які ва ўсім свеце адзначаецца 1 чэрвеня. Моладзь прыедзе ў прытулак, каб зрабіць там забаўляльную праграму ды перадаць сіротам цацкі, адзенне, садавіну. Гэта будзе ўжо чацвертая акцыя “Live funny” ў станульскім прытулку. Мінулая адбылася перад Новым годам.

Маладзёны раздалі гараджанам некалькі сотняў улётак з заклікам дапагчы дзецям-сіротам. Перадаць рэчы і грошы можна праз раённую арганізацыю “Чырвонага крыжа”, якая месціцца ў будынку ДАСААФ на вул. Дзяржынская, 3.

# Яшчэ раз пра парадак падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду

■ **Ю.А. Рацьковіч,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе Глыбоцкага МРА ф-ла «Энерганагляд».*

Завяршэнне аднаго асенне-зімовага перыяду (АЗП) мяркуе пачатак падрыхтоўкі да наступнага, а гэта значыць, што энергаснабжаючыя арганізацыі і спажыўцы цеплавой і электрычнай энергіі на аснове аналізу функцыянавання энергаўстановак у мінулы АЗП, абавязаны:

- распрацаваць планы арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў да новага ацяпляльнага сезону з улікам прадпісанняў органа Энерганагляду;
- правесці работы па прафілактыцы, рамонце, замене цеплавыкарыстальных установак, трубаправодаў цеплавых сетак, абсталявання цеплавых пунктаў, кантрольна-вымяральных прыбораў, прыбораў уліку і аўтаматычнага рэгулявання цеплавой энергіі і г.д.

Як і штогод, у хуткім часе кожнаму спажыўцу будзе накіравана ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ-ПРАДПІСАННЕ упраўлення дзяржаўнага энергетычнага нагляду ДВА «Белэнерга». У ім падрабязна паказваюцца пералікі работ для:

- *спажыўцоў цеплавой і электрычнай энергіі;*
- *арганізацый па эксплуатацыі жыллёвага фонду;*
- *арганізацый, якія маюць на сваім балансе цеплакрыніцы;*– выкананне якіх павінна быць абавязкова забяспечана.

Успомніць парадак афармлення і рэгістрацыі пашпартоў (актаў) гатоўнасці да працы ў АЗП – Вам дапамогуць *«Правілы падрыхтоўкі і праведзення АЗП энергаснабжаючымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі ў Рэспубліцы Беларусь»*, уведзеныя ў дзеянне з 2003г., наяўныя на кожным прадпрыемстве і ў кожнай арганізацыі.

Распрацаваны і зацверджаны графік афармлення і рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці да АЗП 2011-2012 г. прадпрыемствамі і арганізацыямі г. Глыбокае і Глыбоцкага раёна, які будзе накіраваны кожнаму спажыўцу разам з лістом-прадпісаннем Дзяржэнерганагляду. Паводле гэтага графіка пашпарты павінны быць аформлены і зарэгістраваны ў энерганаглядзе да 1.10.2011г.

Кіраўніцтву УП ЖКГ яшчэ раз хацелася б нагадаць, што пасля замены трубаправодаў цеплавых сетак да ўводу іх у эксплуатацыю неабходна правесці допуск з прадстаўленнем усёй неабходнай нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі ў Энерганагляд.

А таксама не варта забываць, што ў адпаведнасці з Артыкулам 20.11 асаблівай часткі Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні і Артыкулам 3.22 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса пра адміністрацыйныя правапарушэнні, за непрыманне мер па падрыхтоўцы цеплавыкарыстальнага абсталявання для работы ў АЗП службовыя асобы органаў Дзяржэнерганагляду маюць права накласці адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры:

- на індывідуальнага прадпрымальніка – да ста базавых велічынь;
- на юрыдычную асобу – да пяцісот базавых велічынь.

# Хутка наступіць лета, знімуцца абмежаванні

■ **А.В. Протас ,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Хутка наступіць лета, здымуцца абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства. З 31 траўня дазволена лоўля рыбы з лодак, а таксама перамяшчэнне на маламерных суднах па вадзе.**

Паводле пункта 130 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у рыбалоўных угоддзях дазваляецца аматарскае рыбалоўства ўсіх відаў рыбы, за выключэннем вугра.

У выпадку вылоўлівання рыбы, ракаў ці міногаў, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, а таксама вугра такая рыба павінна быць выпушчана ў рыбалоўныя ўгоддзі ў жывым выглядзе. За незаконнае вылоўліванне рыб, уключаных у Чырвоную кнігу, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць (штраф да 50 базавых велічынь) і крымінальная адказнасць (да 6 гадоў пазбаўлення волі).

Пры аматарскім рыбалоўстве дазваляецца вылоўліванне рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, па норме не больш за 20 адсоткаў ад колькасці вылаўленай рыбы кожнага з відаў, для якога ўсталявана прамысловая мера.

Так, прамысловая мера на:

- шчупака складае 35 см (вымяраецца ад галавы да пачатку хваста)
- Лін - 22 см,
- Язь - 25 см,
- Жэрах - 34 см,
- Судак - 40 см,
- Сом - 70 см,
- Галавень - 25 см,
- Мянтуз - 36 см,

Рыбаловам дазваляецца выкарыстоўваць для аматарскага рыбалоўства нахлыстовыя, паплывочныя і дновыя вуды ўсіх сістэм, спінінгі, кружкі, дарожкі, жарліцы, стрэльбы і пісталеты для падводнага палявання, падхватнікі і пад'ёмныя сеткі для лоўлі рыбы, якая выкарыстоўваецца ў якасці прынады (дыяметр падхватніка 0,5 метра з ячэяй меней за 10 міліметраў ці пад'ёмная сетка памерам 1 х 1 метр і ячэяй меней за1 см)

На аднаго рыбалова ў суткі дапускаецца вылоўліванне не больш за 5 кг рыбы, ці адной рыбы, вага якой перавышае 5 кг.

На лоўлю асобных відаў рыбы ўсталёўваюцца забароны:

- Сом звычайны: з 1 чэрвеня па 1 ліпеня;
- Рак вузкапалы: з 15 кастрычніка па 15 ліпеня.

Асноўныя забароны пры аматарскім рыбалоўстве :

- стаянка механічных транспартных сродкаў у межах прыбярэжных палос вадаёмаў да 30 метраў ад берагавой лініі;
- мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў у межах вадаахоўных зон вадаёмаў;
- усталяванне ў межах водаахоўных зон летніх лагераў для сельскагаспадарчых жывёл, сховішчаў для складавання ўгнаенняў і сродкаў абароны раслін.
- падводнае паляванне рыбаловам, якія не маюць пры сабе пасведчання падводнага паляўнічага і членскага квітка БТПР, з выкарыстаннем аквалангаў і іншых аўтаномных дыхальных прыбораў.
- знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях або на прылеглай да іх тэрыторыі на адлегласці да 1 км ад берагавой лініі рыбалоўных угоддзяў з забароненымі прыладамі рыбалоўства ці рыбай, лоўля якой у дадзеным раёне і ў дадзены час забаронена або вага якой перавышае нормы вылоўлівання, без дакументаў, якія пацвярджаюць законнасць валодання рыбай.



Жэрах

За мінулы тыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі сумесна з работнікамі Пастаўскага РАУС выяўлены шэраг фактаў незаконных самавольных парубак дрэў. Асобныя так званыя «камерсанты» пад выглядам праграмы «чыстыя палі» высякаюць цэлыя бярозавыя алеі, якія не падлягаюць рубцы, нарыхтаваную драўніну прадаюць на дровы, атрымліваючы нядрэнны прыбытак. Так, жыхар Пастаўскага раёна незаконна зрэзаў 98 дрэў бярозы і асіны, дакументаў на нарыхтоўку не меў, драўніну прадаў на дровы, шкода, прычыненая прыродзе, склала амаль 5 млн., матэрыялы ў адносінах парушальніка накіраваны ў Пастаўскі РАУС для ўзбуджэння крымінальнай справы.

Праверкі законнасці высечкі дрэў супрацоўнікамі міжрайінспекцыі і міліцыі будуць доўжыцца, вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасці ў залежнасці ад прычыненай шкоды.

Пра ўсе факты браканьерства просім Вас паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: 8-02156- 2-86-70 ці 2-80-30, мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49

**УВАГА**: змяніўся тэлефонны нумар «гарачай лініі» Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь: 8-017-39-00-000.

